# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1623) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 21 ЧЭРВЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



„Парнас" развітваецца з беластоцкімі гледачамі. Фота С. Грынявіцкага.

## КОНКУРС БЕЛАРУСКІХ ТЭАТРАЎ—87

У нядзелю 31 мая г.г. у Беластоку цэнтральным аглядам закончыўся сёлетні конкурс беларускіх драматычных гуртакоў, якія ўсё часцей называем беларускімі тэатрамі. У цэнтральным аглядзе выступіла тры тэатры: з Беластока, Бельска („Парнас") і Паўлаў. Ні адзін з іх не паддаўся, усе паказалі свае пастаноўкі добра і цікава. Журы аднолькава ацаніла ўсе калектывы, прызнаючы ўсім першыя ўзнагароды (па 10 тысяч зл. — фундатар ГП БГКТ). Цікавая была рэакцыя публікі. Яна бурлівымі, рэдка спатыканымі ў такіх выпадках апладысментамі прыняла рашэнні журы. Вельмі прыемна было сустрэцца з такою аднадушнай ацэнкай. А яна вынікае з таго, што людзі са шчырым захапленнем прымаюць выступленні аматараў, жыва адклікаюцца на ўсё тое, што дзеецца на сцэне, а ў нядзелю да слёз смяяліся.

Усе тэатры атрымалі дыпломы ГП БГКТ, а тэатр паэзіі „Парнас" за наватарства яшчэ і дыплом Ваяводскага праўлення ТППР.

Дзве рэчавыя ўзнагароды „Нівы" за найлепшыя індывідуальныя ролі атрымалі Вера Харытанюк з Паўлаў і Віталь Байгус з Беластока.

Закваліфікаваных на цэнтральны агляд было пяць тэатраў. Не выступіў другі калектыў з Паўлаў, бо не з'явіўся адзін яго ўдзельнік. А ўвесь калектыў, 14 чалавек, з Паўлаў прыехалі. Не прыехаў і калектыў з Грабянёў, што на Дубоўшчыне.

Беларускія тэатры, цяпер іх 11, працуюць у мясцовасцях (усе рыхтаваліся да конкурсу): Тынеевічы Вялікія — фальклорная пастаноўка „Хрысціны", Дашы — звычаёвая сцэнка „Пасварыліся", Бельск („Парнас") — „Вясёлыя жабракі", Паўлы — 2 калектывы, пастаноўкі: „Сто хвароб" і „Было гэта ў 1941 годзе"; Беласток, два калектывы: „Ажаніся-весяліся" і студэнцкі дэбют „Памылка", Семяноўка — „Суд", Гарадок, два калектывы: „Вяселле" і „Сто хвароб", Грабяні — „Вечарына".

Усе гэтыя тэатры — жывыя калектывы, якія выступаюць са сваімі пастаноўкамі ў сваіх і суседніх мясцовасцях, а прыехаць на агляды некаторыя не змаглі па важкіх прычынах.

Верым у сілу жывога беларускага слова, якое гучыць з вуснаў усіх удзельнікаў тэатральных калектываў. Спадзяемся, што тэатральны беларускі рух будзе развівацца надалей. Просім не забываць пра інсцэніроўкі, фальклорныя, абрадавыя і звычаёвыя, якімі так багаты наш край.

**В. Валкавыцкая**

## ХРОНІКА

### МАЙ 1987 ГОДА

**2** — Гайнаўскі гуртох БГКТ і маладзёжны калектыў „Дубіны" арганізавалі грамадскі пачын пры пасадцы лесу. Даход перадалі ў фонд пабудовы Беларускага музея.

**3** — У Маладзёжным доме культуры ў Беластоку адбыліся раённыя элімінацыі школьнага конкурсу „Беларуская песня-87".

**8** — Нашы літаратары Сакрат Яновіч і Зося Сачко сустрэліся з вучнямі Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. У тым самым дні Сакрат Яновіч быў таксама госцем вучняў Пачатковай школы № 3 у Бельску.

**9** — У Гарадоцкім доме культуры імя Кастуся Каліноўскага праходзіў раённы агляд аматарскіх тэатральных калектываў.

**10** — У Доме культуры чыгуначніка ў Чаромсе адбыўся раённы агляд аматарскіх калектываў. Выступілі тры драмгурткі: з Семяноўкі з п'есай У. Галубка „Суд", з Паўлаў з пастаноўкай „Было гэта ў 1941 г." паводле рамана В. Быкава і тэатр паэзіі „Парнас" з Бельска-Падляшскага са спектаклем „Вясёлыя жабракі" паводле Р. Б'ёрнса. На фінальны агляд заквапіфікаваліся калектывы з Паўлаў і Бельска-Падляшскага.

— З нагоды Дня Перамогі ў Мілейчыцах адбыўся вялікі мітынг на могільніку савецкіх воінаў. Удзельнічалі ў ім таксама прадстаўнікі СССР, рабочыя, ветэраны і афіцэры Савецкай Арміі і сям'я аднаго з загінуўшых салдат.

**13** — На пасяджэнні Прэзідыума Праўлення аддзела БГКТ у Дуброве-Беластоцкай быў абмеркаваны план культурных мерапрыемстваў на вясенне-летні перыяд.

**14** — У Сямяцічах адбылося пасяджэнне Прэзідыума Праўлення аддзела БГКТ. Тэмай пасяджэння была ацэнка падрыхтоўкі аддзела да адзначэння Дня беларускай культуры (22. 05.87 г.).

**17** — Адбыўся пленум Праўлення аддзела БГКТ у Дуброве-Беластоцкай, на якім ацэнена культурна-асветная дзейнасць Аддзела ў гэтым годзе і намечаны напрамкі дзейнасці да канца бягучага года.

— У Доме культуры ў Дуброве-Беластоцкай адбыўся агляд фальклорных аматарскіх калектываў. Калектыў з Грабянёў ставіў „Вечарыну", а з Беластока — „Ажаніся-весяліся". Абодва калектывы закваліфікаваліся на фінальны агляд у Беластоку.

(Працяг на стар. 2)

## ЛІЦЭІ САДЗІЛІ ЛЕС

У пачатку мая г.г. на Пастолове, у Белавежскай пушчы, адбыўся вялікі пачын моладзі. 60 вучняў з беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы (апякун — выкладчык Аляксей Харкевіч) і з Бельска (апякун — выкладчык Зінаіда Дзямянюк) засадзілі дубамі адзін гектар. Садзіць дуб нялёгка — трэба выкапаць глыбокую ямку, бо дуб пускае карэнні глыбока.

Пасля цяжкай працы пад вечар быў супольны бігос пры вогнішчы і песні.

Такім чынам сустрэліся два беларускія ліцэі і „малую нашу цаглінку мы ўклалі ў пабудову беларускага музея", — сказаў Юрка Вапа, старшыня гуртка БГКТ ліцэістаў у Гайнаўцы.

Былі прапановы, каб нашыя ліцэі часцей сустракаліся. Каб у бліжэйшы час зрабіць ноч Купалы ў Грушках каля Нараўкі для школьнай моладзі, у тым і для пачатковых школ.

Ад імя Надлясніцтва сардэчна прывітаў моладзь надлясніцы Вяслаў Камароўскі. Ён вельмі высока ацаніў працу беларускай моладзі.

Няхай здаровымі растуць маладыя белавежскія дубы. (вв)




## КАЛІ ПРАПАДАЦЬ, ТО РАЗАМ!

Мой зямляк — Ян Чыквін — вядомы наш паэт і навуковец, як відаць па яго адгалосцы „Увага: рэдактарская памылка", надрукаванай у дзесятым нумары „Нівы", моцна перажывае за тое, што ў яго вершы ў „Беларускім календары на 1987 год" п.з. „На чужыне" дапушчана памылка. Ён хацеў, каб было надрукавана: „Прысвячаю беларускім паэтам на чужыне" (а выйшла ў эпіграфе без гэтага „на чужыне"). Вядома, памылка — прыкрая справа, аднак у гэтым выпадку яна апраўданая, бо ці нашы тут паэты і пісьменнікі не адчуваюць сябе часта так, як на чужыне, га?

Нашы паэты і пісьменнікі жывуць, пераважна, па гарадах і мястэчках, рэдка хто з іх жыве ў вёсцы. Яны як паэты беларускай мовы не чуюць гэтай мовы даслоўна нідзе, часта нават і ў доме сваім... А літаратурнай творчасці патрэбна жывая хваля мовы, паэт, як тая лодка, павінен рынаць у моры сваёй мовы, жыць у ёй, як жыве наогул чалавек у стыхіі паветра і вады, і зямлі. Паэт на чужыне таму і марнее, што ён аддалены ад роднага якіяна ў пустыню не сваёй мовы. І такі паэт-эмігрант сохне, бы выкарчаванае дрэва зялёнае. На Беласточчыне паэт можа яшчэ нырнуць у вёску якую. Аднак цяпер не вельмі ўжо так-дзе і нырнеш, вёска таксама пачала губляць за сабою родную мову, выносіць яе на могілкі разам з трунамі бацькоў нашага маладога пакалення. Вёскі больш цывілізаваныя, блізка шляхоў, робяцца мястэчкападобнымі, і гэты працэс пашыраецца разам з прапажай індывідуальнай сельскай гаспадаркі. (Я калісьці пісаў, як дзяўчаты загубяць нам гаспадарку, маладыя гаспадары не маюць з кім жаніцца, што знакаміта нядаўна падзаўважыў Хведар Хлябіч у адгалосцы „Нанач засталася — вяселле будзе").

Ці нашы паэты тут — таксама — ужо не на чужыне? — паўтараю. З Чыквіным я не размаўляў на гэты конт, але, хто ведае, ці акурат не тое ён і меў на ўвазе гэтак жа...

Высыхае мова, а яе паэты, як тыя рыбкі, што дрыгаюць на сухім дне і прападаюць. Як можна сабе ўявіць беларускага паэта без жывой беларускай мовы? А да гэтага даходзіць і яшчэ бяда, пра якую каторы раз піша наш бяссільны Алесь Барскі: не даюць грошай на ганарары, не вельмі даюць і на друкаванне кніжак нашых аўтараў. Я не ведаю добра аргументацыю такіх паводзін адміністрацыйных уладаў. Думаю, аднак, што няшмат у чым памылюся, калі скажу, што ў варунках эканамічнай рэформы, калі ўсё мусіць прыносіць даход, кніжка на беларускай мове можа прынесці толькі вялізны дэфіцыт, многа яе не надрукуеш, а каштуе яна!

Значыць так: мала, што і на-

(Працяг на стар. 6)

СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Стары. Беласток. Вуліца Мазавецкая. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

У аўтобусе, усё роўна што ў банцы якой з селядцамі, чалавек каля чалавека, нагою няма дзе ступіць. Ездзяць цяпер людкове, мала хто па справе, а больш за таварамі, бо дачуюцца, што недзе „даюць", як не дываны, то тканіну, або які іншы ўжытак. Няма ў нас здаровай, нармальнай гаспадаркі ў краіне, то і няма гандлю, у якім, як я сама памятаю ўжо, усё толькі „даюць", а не прадаюць. Слоўца народнае такое, а яшчэ: „дастаў", „выстаяў", „дабіўся" да селядцоў — вельмі дакладна перадае сэнс сітуацыі, у гэтым выпадку эканамічнай.

Еду і я пабагацець у гайнаўскай краме, бо ў сваёй, вясковай, нават хлеб не заўсёды купіш.

Народ крыху аціх, і чую я такую гутарку.

— Ага, гэта вы, цёта Марыся...

— Ну, я, — адказвае нейкаму боўдзілу даволі зграбная кабета з торбаю на пакупкі.

— А я вас і не пазнаў... Як жывеце?

— Так, як бачыш. Жыву, хлеб жую, малаком запіваю.

— Я таму вас не пазнаў, што даўно мяне тут не было. Гэтак цераз бацьку майго: есці не даваў, босым на двор гнаў, сабакамі цкаваў...

— Не пляці, дурню! — адсекла яму цётка. — Я добра ведаю бацьку твайго, і цябе, як сабаку апаранага, ведаю. П'яніца ты! Бацька ў полі пацеў, а ты за гарэлкаю ў патаемніцы, лахман.

— Што вы, цётка, гаворыце такое? Я ж гэта ад сабак бацькі ўцёк у свет, а вы мяне п'янюгаю зрабілі! Брыдка так, цётка...

— Чаму ж гэта брыдка? — не сунялася жанчына. — Калі ты — чалавек, то чаму ў цябе жонкі, дзяцей нямаш, і хаты сваёй, га?

— Затое кажух маю, — кажа бамбіза.

— Пакажы ты гэты свой кажух, — павярнулася яна да яго. — На табе я фуфайку бачу, а не кажух.

Публіка рагатнула.

— Найлепш будзе, бабульку, калі я з табою ажанюся. Тады і кажух мець буду, і золата, якога ты нахавала па панчохах у куфры, — расхадзіўся ён ад абразы.

— Каб ты аблез, нашто ты мне!? Бяры дурнейшую за сябе.

— Дурнейшая ёсць, але ў яе кажуха няма.

— То пашукай добра... — заіскрылася жартам жанчына. І людзі падхапілі яе жарт, аж п'яніца пацверазеў трохі.

— Не знайду... — ён хацеў сказаць брыдкае.

Жанчына перабіла:

— Ад гарэлкі рукі дрыжаць, калені гнуцца, і пот вочы залівае ад слабасці, разлеза ты маладая! Пі так далей, то і нагавіцы згубіш.

— Во як сваячка да сваяка кажа, людзі!

— Знайшоў з кім сваяцца! Бутэлька табе дзядзькам, а чарка цёткаю...

Боўдзіла схапіўся прабівацца дапераду, да выхаду з аўтобуса, пад агульны смех. Яму далі свабодна прайсці, ён папрасіў шафёра, каб спыніў аўтобус, і шафёр, свой хлопец, спыніў, думаючы, што патрэба нейкая ў чалавека гэтага. Але п'яны шмыгануў на дарогу і пайшоў назад у Гайнаўку.

Ён быў адзіным пасажырам, які мог і не ехаць: ні справы ў яго, ні куплі якой — аніякай патрэбнасці. Можна было б назваць яго турыстам, але ён ім не мог быць, бо — п'яніца, і на што ён толькі не гляне, усюды бачыць гарэлку: рэчка яму — гэта рэчка як бы гарэлкі, бочка яму — гэта як бы вялізная бутля, машына яму — гэта як бы манапольны транспарт, жанчына яму — гэта як бы патаемніца з запасамі жытнёўкі, і гэтак далей.

**Аўрора**

(Працяг са стар. 2)

# КІРМАШ ДРУЖБЫ

тэкстыльным камбінатам, Беластоцкая „Унітра-Бязэт" і Віленскае прадпрыемства радыёкампанентаў свае ўзаемныя паслугі ацанілі на адзін мільён рублёў у год. Сямяціцкая абутковая фабрыка паставіць сваёй сястронцы „Нёман" у Гродне між іншым сто тысяч штук падэшваў да дзіцячага абутку, 50 тыс. камплектаў да прадукцыі дзіцячых сандалікаў і столькі ж камплектаў да жаночых, асабліва зараз модных летніх сандаляў. У замен ад „Нёмана" фабрыка атрымае адпаведную колькасць абутковай скуры і фарбы.

І так можна было б гаварыць пра многія іншыя вытворчыя прадпрыемствы. Прадбачваецца таксама вельмі ж цікавы абмен вопытам. І не ў канферэнцыйных залах ці ў дырэктарскіх кабінетах, як гэта найчасцей здаралася даўней, але непасрэдна ў вытворчых цэхах, за станкамі. Проста шмат якія прадпрыемствы рашылі сістэматычна мяняцца ў працы цэлымі рабочымі брыгадамі.

Вяртаемся, аднак, на беластоцкі кірмаш. Прагрымелі вось дзяржаўныя гімны, перарэзана традыцыйная стужка і народ нецярпліва падаўся ў паасобныя выставачныя павільёны. У першым з іх, зараз ля ўваходу, наладжана была павучальная дакументальная выстаўка пад агульным лозунгам „Супольнасць гісторыі — супольныя мэты". У наступных павільёнах наведвальнікі знаёміліся з грамадска-гаспадарчымі дасягненнямі Гродзенскай вобласці і любаваліся прыкладным мастацтвам Літвы. Яны доўга ўзіраліся ў цудоўны каляровы посуд гродзенскага шклозавода „Нёман", разглядалі тканіны з вельмі цікавымі ўзорамі, захапляліся вырабамі з літоўскага бурштыну і літоўскай керамікай.

У гэтым павільёне сустрэў я намесніка дырэктара па справах гандлю аднаго з каўнаскіх універмагаў, самага буйнага ў гэтым горадзе. Гэта бойкая жанчына.

— Гэтае, што тут мы паказваем, — адзначала яна, — я б асабіста палічыла толькі ўступнай разведкай. У нас знайшлося б больш тавараў, якія маглі б зацікавіць жыхароў Беластока і ўсёй Польшчы. Ад вас я таксама шмат чаго завязла б у Каўнас для продажу ў нашым універмагу. Асабліва мяне цікавіць польская касметыка. Буду старацца як мага больш яе закантрактаваць. Такі тавараабмен умацоўвае эканамічныя асновы нашых гандлёвых і вытворчых установ.

Продаж савецкіх тавараў (вядома, за залатоўкі) вялася ў двух наступных павільёнах. Туды нават не спрабаваў я праціснуцца ні з фотаапаратам, ні заглянуць рэпарцёрскім вокам. Толькі праз плечы людзей, цесна абляпіўшых прылаўкі, удалося мне заўважыць, што бяруць яны, без аглядкі на цэны,

 

# СЯБРЫНА

## НЕ СЯРДУЮ

**Размова з Алінай Лукшай**

**Міра:** У цябе такія сумныя, шэрыя вочы, Алінка...

**Аліна: Я ўжо паспела пераканацца не раз, што ўсё мне не хапае год, каб я змагла што-небудзь змяніць на свеце.** Прапановы і ахвота моладзі да дзейнасці амаль не лічацца ў „вышэй пастаўленых“, асабліва ў нашай школе. Не раз у мяне нараджаюцца цікавыя планы і прапановы, але найчасцей усё гэта ў канцы канцоў аказваецца немагчымым да выканання. У школе (Сельскагаспадарчы тэхнікум у Бельску-Падляшскім) не магу якасьці распраставаць крылы. Амаль ніхто тут з маладым не лічыцца, асабліва з такім, у якога на кожную справу ёсць свой погляд. Такіх называюць „пыскатымі“, дзёрзкімі, як мяне. Аднак часам вылучваюць мяне ў школе. Цэлы клас ездзіў на практыку за граніцу, а мяне не пусцілі. Калі так шкадавалі майго здароўя (аб тым, што на маё месца трапіла на „практыку“ нейкая асоба, нават не з нашай школы, я даведалася пасля бальніцы), то чаму ўвогуле не вызвалілі мяне з работы? Я была прымушана працаваць па 12 і больш гадзін у садзе Т. Васілюка, зусім не лёгка, і ніхто за мяне не заступіўся, я ж была сама з нашай школы. Не ведаюць, аднак, яны, ці што, педагогі, што метад палкі — гэта не выхаваўчы метад. Жаль ад такога „вылучэння“ застаецца надоўга ў сэрцы і памяці.

Кім я хачу быць у жыцці? Перш за ўсё — чалавекам. „Штораз больш вакол людзей, а чалавека ўсё знайсці цяжэй“ — гэта словы Эдварда Стахуры. Я хачу быць чалавекам вольным, свабодным, праўдзівым. Палохае мяне гэты свет, у якім столькі крывадушнасці, злосці, зайздрасці, фанабэрыяў, ганарыстасці, самалюбаў. Так рэдка ўдаецца сустрэць асобу, якой сумленнае жыццё складваецца з праўды, любові, скромнасці, талерантнасці. Думаю, што ў нашым жыцці вялікі недахоп якраз талерантнасці. Кожны хоча, каб яго іншыя разумелі, але ці сам ён умее і хоча разумець іншых?

**М.:** Ведаеш, што добрае для іншых?

**А.:** Не люблю, калі хто-небудзь нахабна ўмешваецца ў мае справы, хаця не сярдую, дзякую шчыра за добрыя парады. Хачу, каб усім было добра, але чалавек штодзённа сутракаецца з няшчасцем. Гледзячы, аднак, з другога боку, калі б усе людзі былі толькі шчаслівымі, ці ўмелі б яны цаніць гэтую прысутнасць шчасця? Ці было б столькі паэзіі, музыкі, чакання „між губамі і берагам бакала“?



**Я многім удзячна майму сябру, Кшысю. Я ішла аднойчы, марозным вечарам, адзінокая, разгубленая. Здавалася мне, што канчаюцца мае сілы ў барацьбе за „быт“. І тады спаткала чалавека, які ў той жа момант стаў маім сябрам.** Слёзы мае, як гарох, падалі на яго куртку. Ёсць людзі, якія вераць у мае сілы... Многа я абавязана ў жыцці музыцы, Рыську Скібінскаму. Цікава, дзе цяпер яго душа?..

**М.:** Задумалася ты...

**А.:** Вельмі люблю марыць. Час ад часу пачынаю верыць, што мары здзейсняцца, што будзе так, як у песні Роберта Планта аб прыгожай пані, якая купіць сабе лесвіцу ў неба, і пераканае нас, што ўсё — з золата...

**М.:** Алінка, носіш знак барацьбітаў за мір і свабоду чалавека.

**А.:** Некатарым перашкаджаюць нашы погляды на тэму міру (яны не ведаюць жа, у чым справа!), мае доўгія валасы, а таксама тое, што я сябрую з „адзінкамі непрыстасаванымі да грамадства“. Трэба гэтым „адзінкам“ дапамагчы. Я сама не куру папяросаў, не гавару ўжо нават аб каштаванні гарэлкі ці нечага падобнага (тут справы і ў маіх рэлігійных законах). Яны, мае сябры, хочуць „скасаваць час пакалечаны“, а яшчэ не ўмеюць. Хто захоча ім дапамагчы?

Я думаю аб войнах, аб вялікай сіле несправядлівасці, і прыгнятае мяне пачуццё прыніжанасці, што я нічога яшчэ не ўмею, каб нешта зрабіць супраць таго.

**М.:** Не баішся жыцця?

**А.:** Не баюся, але адначасова яно наводзіць на мяне жах. Зноў прыходзяць мне на думку словы Стахуры: „Ці ў жыцця ёсць нейкая мэта? Само жыццё — гэта мэта“. Я хачу пражыць яго, даючы як найбольш з сябе, рэалізаваць многа сваіх задумаў, нешта пакінуць па сабе. Маё месца ў грамадстве яшчэ не акрэсленае. **Я хачу працаваць ветэрынарам. Жывёла — безбаронная істота і не зробіць мне столькі дрэннага, як чалавек, які ўмее кусаць горш шалёнага сабакі. Хачу разумець і пазнаваць і звяроў, і людзей...**

**М.: Я чытала твае вершы.**

**А.: Люблю пісаць вершы, аднак гэта не дасць мне „хлеба“.**

**М.: Можа будзеш калісьці слаўным пісьменнікам...**

**А.: Усё можа быць, але, напэўна, ужо пасля смерці! Вядома, як гэта бывае.**

**Гутарыла Міра Лукша**

*Адна пчала многа мёду не наносіць.*
*Бой красен мужнасцю, а прыяцель дружнасцю.*
*З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.*
*З мядзведзем дружы, а стрэльбу дзяржы.*
*Не май сто рублёў, а май сто сяброў.*
*Няма лепшага друга, як родная маці.*
*Паважаюць не чын, а чалавека.*
*Подласць блізкага страшней за кулю.*




## ПАПЯРОСНЫ ДЫМ

Пераканаўча даказана медыцынай, што курэнне шкодзіць арганізму чалавека, што курэнне, між іншым, спрыяе захворванню ракам лёгкіх. Паветра, атручанае папяросным дымам, выклікае болі галавы, дрэннае самаадчуванне. Некаторыя людзі, да іх належу і я, даўжэй пабыўшы ў пракураным памяшканні, выходзяць адтуль проста хворыя. Вельмі цяжка пераносяць яны папяросны дым.

Супроць курэння ідзе грамадскае змаганне. На жаль, людзі, якія кураць, нахабныя, эгаістычныя. Курцы без пытання, без дазволу прыходзяць у тваю хату, альбо ў пакой, дзе ты працуеш, і кураць. Няма патрабавальнасці да такіх паводзін з боку ўлад і ўстаноў.

У цягніках ёсць купэ, на шыбах якіх на малюнку перакрэслена папяроса. Але вельмі часта ў адным вагоне палова купэ прызначаецца для курачых, а другую — для някурачых. А дым гэтага не разумее і з калідора разыходзіцца ўсюды, пранікае і ў купэ для някурачых. Што з таго, што ёсць нават вагоны, адведзеныя цалкам для някурачых, але ў іх заходзяць курцы і яны ў купэ не кураць. Затое выходзяць курыць на калідор. З калідора пры кожным адхіленні дзвярэй купэ ўрываецца папяросны дым...

А зноў як аднесціся да такіх людзей, як іх назваць, у якіх поўныя вусны слоў аб тым, што трэба настойліва змагацца за чыстую ваду, за чыстае паветра, а яны самі амаль беспрапынна атручваюць паветра бухаючы папяросным дымам, быццам паравозы. І сярод гэтых закаранелых атручвальнікаў шмат жанчын, у тым ліку і дзяўчат, будучых матак.

Змаганне супраць курэння — гэта змаганне за здароўе чалавека.

Пакуль што яшчэ гэтае змаганне не набрала патрэбнай моцы, яшчэ яно належна не падтрымана ўсімі арганізацыямі і ўладамі.

(мх)

нейкі посуд, цацкі, гармонікі, веласіпеды і многа-многа яшчэ чаго іншага, што звычайна паяўляецца ў нас на таўкучцы ля вуліцы Бэма. Вось і паявілася парадачная канкурэнцыя для прыватных гандляроў! А можа толькі нажыва для іх?

Я хадзіў па гэтым кірмашы ў кампаніі сяброў з Гродна. Мы сачылі за цэнамі і абменьваліся спасцярогамі. Калі ўзяць крыху заніжаны курс, што адна капейка раўняецца адной залатоўцы, дык цэны на гэтым кірмашы былі, так сказаць, цэнамі міжнароднай раўнавагі, значыць, яны больш-менш аднолькавыя ў нас і ў Савецкім Саюзе.

У Беластоцкім кірмашы дружбы прымала ўдзел аж 7 прыгранічных ваяводстваў, якія прапанавалі для продажу савецкім таварышам тавары на звыш 9 мільярдаў злотых. Беласточчына выступіла з наборам тавараў, вартасць якіх склала амаль 4 мільярды злотых.

Што з гэтага ўсяго атрымаецца, дык неўзабаве пераканаемся, наведваючы ўжо звычайныя крамы і розныя універмагі. Важна аднак тое, што зроблены першы вельмі ж важны крок дзеля замацавання нашага ўзаемнага супрацоўніцтва. Міністр Ежы Юзвяк з нагоды гэтага ж кірмашу ўручыў 18-ці прыгранічным прадпрыемствам афіцыйныя канцэсіі на вядзенне прыгранічнага тавараабмену. Беласток надалей будзе супрацоўнічаць з Літоўскай і Беларускай ССР.

З нагоды першага міжнароднага кірмашу прыгранічнага тавараабмену Беласточчыну наведалі вядомыя мастацкія калектывы з Гродна і Вільнюса. Між іншым, мелі мы нагоду зноў захапляцца цудоўнымі спевамі і танцамі членаў ансамбля „Нёман“. На эстрадзе, якая знаходзіцца ў цэнтры выставачнай тэрыторыі, на працягу дзесяці дзён штосьці цікавага адбывалася. Між іншым, была наладжана „Панарама фальклору Беласточчыны“, выступалі шматлікія самадзейныя калектывы, адбыўся канцэрт з удзелам дзяцей „Колеры дружбы“.



**Вялікае зацікаўленне, асабліва сярод моладзі, выклікала новая мадэль вядомага і ў нас аўтамабіля „Лада“. На здымку — Лада 2108.**

А найважнейшае: зноў сустрэліся людзі, якія жывуць па абодвух баках дзяржаўнай мяжы. Сустрэліся і пераканаліся, што нічога іх не дзеліць, што аднолькавыя ў нас жаданні, каб жыць мірна, без лішніх хваляванняў і ўсё болей заможна.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

 




(Працяг са стар. 4)

шы паэты застаюцца без натуральнага асяроддзя жывой беларускай мовы, то яшчэ перасталі забяспечваць іх сродкамі на выдаванне кніжак з іхнымі творамі.

Што рабіць? Можа суполкі якія ўтвараць, накшталт эмігранцкіх. На далёкім Захадзе жыве Ян Пятроўскі, беларускі перакладчык антычнай літаратуры (Платона, Аўрэлія). Ён выдае свае пераклады за грошы суполкі. Цяжка мне сказаць, ці гэтая суполка мае нейкі даход свой, а ці ўтрымліваецца яна, можа, з грашовых дарункаў... Але ж і Музей гэты свой у Гайнаўцы будуем мы падобным чынам, за дараваныя грошы. Чаму б тады не спрабаваць і кніжкі гэтак жа выдаваць? У Савецкім Саюзе, чую, думаюць пісьменнікі пра арганізоўванне суполак, выдавецкіх арцеляў, хоць прычыны таго ў іх не такія трагічныя, як у нас.

Так што не шукайма далёка чужыны, яна прыходзіць ужо да нас, яна пачынаецца ў нас саміх. Без кніжак культура немагчымая, слушна пісала Аўрора. А без грошай немагчымая кніжка (друкарня, ой, бярэ!). Дык што, як вам, чытачы, падабаецца ідэя выдавецкай беларускай суполкі ў Беластоцкім краі? Кажуць людзі, каб выратавацца ад смерці — усе спосабы дазволеныя. Можа гэта і залішне сказана, аднак долю рацыі я ў гэтым бачу.

**Мікалай Панфілюк**

### КУДЫ ГЛЯДЗЕЛІ ВОЧЫ!

У „Ніве" ад 17 мая г.г. быў апублікаваны рэпартаж Віктара Рудчыка „Мак". Гэты рэпартаж мог быць цалкам ніштаваты, калі б не пэўнае „але": нашто ўім такі дакладны рэцэпт вырабу гераіну і наркаманскіх „кампотаў", пытаю я ў Рудчыка. З такімі інфармацыямі трэба быць асцярожным, бо могуць яны трапіць у рукі дурня якога, яму і захочацца пакаштаваць усяго таго забароненага...

Мне ўжо за восемдзесят гадоў і наркаманія не пагражае мне, хаця некалі я быў заядлым наркаманам, піў, менавіта, гэтакі „кампот". Так, так — піў! Справа ў тым, што — як гаварыў татка — нарадзіўся я вельмі бядовым, усё не хацеў спаць, і мая маці (я яе не памятаю), каб хоць трохі адпачыць пасля гароўнага дня на гаспадарцы, паіла мяне адварам з макавак, пасля чаго спаў я непрабудным сном. Я быў настолькі малы, што не памятаю, ці сніліся мне тады голыя бабы, але тое, што не ўзвычаіўся я да гэтага „кампоту", дык заслуга ў тым майго бацькі. Калі я стаў большым і крычаў, то татка лячыў мяне не „кампотам", але шырокаю дзягаю, якою, урэзаўшы пару разоў па маім азадку, усыпляў мяне такім спосабам.

У вёсцы не было наркаманаў.

Выбачайце, што я люблю пісаць пра мінулае. Яно, праўда, не было ў нас вясёлым, затое было яно сумленным.

(Працяг на стар. 11)

# КАНФЕРЭНЦЫЯ МОВАЗНАЎЦАЎ

У маі ў Белавежы адбылася Міжнародная балта-славянская канферэнцыя „Характар і абсяг узаемадзеяння балта-славянскіх уплываў даўней і сёння", арганізатарам якой быў Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук. Гэтая канферэнцыя стала плённай сустрэчай прадстаўнікоў навукі з цэлага свету. З дакладамі выступілі: В. Іванаў, В. Тапораў, М. Ляконцава, Т. Суднік, Л. Неўская з Масквы, З. Зінкявічыюс, К. Моркунас, А. Каўпуж, В. Ч,кмонас, К. Гаршва,А. Раманчук, В. Мацеяўскенэ, А. Ванагас з Вільнюса, Л. Грыгорава, В. Вярэніч з Мінска, Р. Казлова з Гомеля (на жаль, не прыехаў прафесар М. Бірыла, з дакладам „З антрапаніміі беларуска-літоўскага пагранічча"). А. Блінкена і В. Дрызуле з Рыгі, Ю. Лаўчыютэ і Н. Батажок з Ленінграда, Ю. Марван з Клейтон (Аўстралія), А. Залескі і А. Непакупны з Кіева, Э. Станкевіч з ЗША, П. Дзіні з Пізы (Італія), Р. Экерт і Б. Гінцэ і Е. Букевічыютэ з Берліна, Г. Шалер з Марбурга, а з Польшчы: В. Смачынскі, В. Маньчак, М. Гасюк, С. Дубіш, Т. Левашкевіч, Э. Балалыкіна, М. Лізісава, С. Глінка, В. Ціханюк, Л. Крук, М. Бёлік, Л. Беднарчук, Г. Таборская, А. Галомбэк і кіраўнік Інстытута славяназнаўства ПАН Міхал Кандрацюк. Вялікая частка рэфератаў датычыла моўных спраў Беласточчыны. Гэта, між іншым, даклады Лілі Крук „Балтыйскія элементы ў XVI-вечнай антрапаніміі паўночнай Беласточчыны", С. Глінкі „Прыклады фанетычных літуанізмаў у беларускіх і польскіх гаворках Беласточчыны", М. Кандрацюк — „Балтыйскія асабовыя назвы сялян у спіску Тыкоцінскага старawства з 1573 года", В. Ціханюка — „Балтыйскія элементы з XVI-вечнай антрапаніміі паўднёвай Беласточчыны".

— Такі форум дыскусіі і навуковых прапаноў удаецца арганізаваць раз на дзесяць год! — сказаў дацэнт М. Кандрацюк сваім студэнтам і дыпламантам, для якіх удзел у міжнароднай канферэнцыі быў першым крокам у вялікую навуку. Гэтыя маладыя былі названы адным мовaведам жартам (але з ноткай зайздрасці) „школай Кандрацюка". Цікава, што якраз многа дзяўчат цікавіцца мовазнаўствам!

На здымку — частка ўдзельнікаў канферэнцыі, якім найцяжэй было расстацца з Белавежай.

**Міра Лукша**
**Фота. В. Рынажэўскага**



### У АНІСЬКІ АЖЫВАЮ

Я вельмі люблю бываць у доме Яўгэна Аніські, што жыве ў Аўгустове каля Бельска. У яго цікавая беларуская бібліятэка, а сам ён займальна гаворыць пра беларускую літаратуру, пра нашу культуру і нашу вялікую гісторыю. І кожны раз, выходзячы ад яго, мне, як прыпеў які, паўтараюцца, пачутыя тут, словы вялікага Купалы:

Адгарні ты, сонца,
Мглу ад нас благую!
Гора нас не руш!
Я люблю бясконца
Бедную, святую
Матку Беларусь!

Як жа вечна актуальныя нам гэтыя цудныя словы волата Белай Русі! І, дзякуй Богу, усё менш і менш ужо такіх беларусаў, якія анічога не ведаюць пра сваю старонку, пра свой народ.

Яўген Аніська ад пачатку выпісвае „Ніву", выпісвае ён і штомесячнік „Беларусь", і штотыднёвік „Літаратура і мастацтва" з Мінска. У яго гасцінай можна паслухаць прыгожы спеў амерыкана-беларускага спевака Данчыка, запісаны на магнітафонную стужку. З песняў Данчыка мне асабліва спадабалася „Явар з калінаю" на словы таго ж Янкі Купалы.

Калі бывае мне цяжка на душы, а няма куды падзецца, я іду да Яўгена Аніські, і толькі з ім супакойваюся, аціхаю, вяртаюся, так сказаць, да жыцця. Як жа патрэбны ён нам, чалавек-беларус!

**Андрэй Гаўрылюк**

### МУЗЕЙ У АШМЯНАХ

Як паведамляе „Гродненская правда", пасля рэканструкцыі адкрыўся ашмянскі краязнаўчы музей імя Ф. Багушэвіча. Вялікую работу зрабілі ў апошні час яго супрацоўнікі. Дзякуючы іх пошукам і доследам, адкрыліся шматлікія, дасюль невядомыя або мала вывучаныя старонкі ў гісторыі роднага краю. Бадай, галоўнай у музеі лічыцца зала, у якой сабраны матэрыял аб жыцці і дзейнасці паэта Ф. Багушэвіча. Тут можна ўбачыць яго асабістыя рэчы, бліжэй пазнаёміцца з яго творамі. Экспанаты іншых залаў музея як бы пішуць гісторыю ашмянскай зямлі з пачатку нараджэння жыцця да нашых дзён.







### З БІТВЫ У БІТВУ

Уся заходняя граніца Кейстутавага княства — ад Балтыйскага ўзбярэжжа каля сённяшняй Клайпеды, на поўначы, і па вытокі Прыпяці, гэта значыць па Уладаўскае паазер'е, на поўдні, — увесь час палала несціханай вайной. Рэдка здараўся такі год, каб Ордэн не ўчыніў нашэсця на Жмудзь, Аўкштайцію, Гарадзеншчыну ці Дарагічыншчыну і каб Кейстут не хадзіў адпомсціцца яму.

Крыжацкія атрады ў Кейстутавы ўладанні ўрываліся пераважна праз брод на рэчцы Нэце, каля сённяшняга Аўгустова, і далей ішлі на ўсход між рэчкамі Ваўкушанкай і Бобрай (Бебжай), па гэтым шляху потым пралёг паштовы тракт, а затым шаша і чыгунка з Гродна ў Аўгустоў. За гэтую „браму ў беларускія землі" больш за сто год ішло зацятае змаганне паміж Ордэнам і Вялікім княствам. Відаць, у Кейстутавых часах трэба шукаць пачатку назвы Старожынцы, якая цяпер датычыць вёскі ў гміне Ліпск, Сувальскага ваяводства, а ў XIV—XV ст. гэта была адна з крэпасцей, што „старажылі" той шлях. Крыжакі, каб апанаваць яго, пазней, ужо за Кейстутавага сына Вітаўта, у 1392 годзе, каля броду на рэчцы Нэце, дзе сёння прасціраецца Аўгустоў, пабудавалі замак Метэнбург, які зараз жа атрады гарадзенскіх вояў здабылі і ўшчэнт разбурылі.

Кейстут жа аблюбаваў іншы шлях сваіх паходаў у крыжацкія ўладанні. Ён склікаў харугвы гарадзенскіх, ваўкавыскіх, бельскіх, суражскіх, дарагічынскіх ці берасцейскіх вояў у прыгранічную моцную крэпасць Гонязь (сённяшні Гонёндз) і, перайшоўшы тамашнім тупкім бродам раку Бобру (Бебжу), кіраваўся праз Піш на захад і поўнач, у глыб Прусіі. Гэты шлях пакінуў таксама трывалы след: у Ольштынскім ваяводстве ўрочышча каля вёскі Ракава, што распалажана на верхнім цячэнні рэчкі Вісы, называецца і сёння Кейстутаў Брод. Мабыць, не аднойчы ў гэтым месцы пераадольвалі балоцістую рэчку Кейстутавы харугвы, калі падаваліся на крыжакаў ці вярталіся з паходу на іх.

Не заўсёды гэты энергічны Гедымінавіч хадзіў з вялікай арміяй, часта адпраўляўся на непрыязных яму заходніх суседзяў з невялікай дружынай. Але заўсёды з'яўленне яго атрадаў выклікала неймаверны



 

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

## АКТЫЎНАСЦЬ ПАМЁРШАГА

Сярод пакалення старэйшых жанчын спатыкаем многа такіх, якія вераць, што памершыя маладыя маці наведваюць сваіх немаўлят і кормяць іх грудзьмі. Такія перакананні з вялікай упэўненасцю выказвала жыхарка Лукі Анна Садоўская, жыхарка Рыбакоў Юля Баршчэўская, жыхарка Капітаншчыны Анна Карпюк, жыхарка вёскі Скупава Марта Гарустовіч. Варта падкрэсліць, што, выказваючы такія фантастычныя меркаванні, твары гэтых жанчын свяціліся прыгожай верай у рэальнасць і праўдзівасць сказанага.

„Можаце верыць, можаце не верыць, — гаварыла Анна Садоўская, — але я ведаю досьне, што многія мацеры прыходзілі после смерці да сваіх грудных дзіцей. І як жэ вано магло б быць па-другому? То ж вадомо, што Бог адпусціт кажду мацеру да сваго дзіцяці. То ўжэ вана ні толькі накорміт его грудзьмі, але падушачку паправіт і прыкрые. Мне мама гаварылі, што ў іх суседзяў было такое, што памэрла маладзіца, то вана ні толькі прыходзіла і карміла грудзьмі малое, але і переадзела яго і нават яму страву варыла.“

Іншыя анкетаваныя жанчыны гаварылі, што ў часе наведвання грудных дзяцей памёршымі маткамі хатнія чулі скрып дзвярэй, бачылі хістанне калыскі, чулі смактанне дзіцяці, чулі нават спяванне маткай-наведальніцай песні-калыханкі.

У раёне Орлі, між іншым, у Рэдутах на працягу сямі дзён пасля смерці чалавека трымаюць на палічцы ў покуце свежы ручнік і ваду ў шклянцы. Робіцца гэта з той мэтай, каб душа памёршага магла на ручніку адпачыць і напіцца вады.

У тых жа Рэдутах да сёння паўтараюць яшчэ здарэнне з міжваеннага перыяду. Датычыць яно мясцовай жыхаркі, якая займалася чарадзейнымі практыкамі. Перад смерцю яна моцна мучылася. Сын, стараючыся аблегчыць маці смерць, прыпадняў дошку ў столі асінавым клінам. Пасля смерці жанчыны і яе пахавання жыхары вёскі заселі да хаўтурнага пачастунку. Нечакана праз комін павеяў струмень паветра. Адзін з прысутных мужчын засмяяўся і адкрыў вусны, каб нешта сказаць. Не здолеў, аднак, гэтага зрабіць, бо струмень паветра скруціў яму галаву набок. Усе спалохаліся і ўцяклі з хаты. Мужчына гэты жыў яшчэ да нядаўняга часу і меў скручаную набок шыю. Старэйшыя жыхары вёскі расказваюць аб гэтым здарэнні, трактуючы яго, як верагодны доказ уздзеяння душы памёршага на жывога.

Многа паэтычных вераванняў, звязаных са смерцю дзяцей. Варта падкрэсліць, што на пачатку XX стагоддзя на ўсходняй Беласточчыне памірала каля 60 працэнтаў дзяцей. Па сутнасці ніводная з вясковых жанчын не карысталася лекарскай дапамогай пры нараджэнні дзіцяці. У сувязі з гэтым многія дзеці уміралі пры нараджэнні. У выпадку хваробы нованароджанага дзіцяці таксама не звярталіся вясковыя жыхары да лекара. І было гэта звязана не настолькі з цемрай, наколькі з выключным убоствам і галечай. У такой сітуацыі дзяцей лячылі мясцовымі спосабамі пры дапамозе зёлак, а яшчэ часцей — магіяй.

Масавы зыход дзяцей як быццам бы спрыяў нараджэнню адпаведнай інтэрпрэтацыі гэтага факту. Гэтак узнікла перакананне, што памёршыя дзеці, як бязвінныя істоты, становяцца ў небе анёламі і што Бог іх выкарыстоўвае да розных добрых паслуг. Такое перакананне выклікала наступны міф, паводле якога маці, страціўшы дзіця, не павінна быць у роспачы, бо чым больш такіх анёлкаў будзе мець у небе, тым лепшая апека будзе ёй там пасля смерці.

У Клейніках забарона плачу над памёршым дзіцём была звязана з перакананнем у тым, што яе слёзы заліюць і згасяць свечку, якой паслугоўваецца яе дзіця ў раі. У некаторых мясцовасцях былых Беластоцкага і Сакольскага паветаў жыхары гаварылі, што слёзы маці заліюць пасцельку яе дзіцяці ў раі, а галосны плач будзе будзіць іх са сну.

У вёсцы Гацькі загад паўстрымоўвацца ад плачу над памёршым дзіцём тлумачыцца тым, што такое дзіця мусіць на небе насіць збан, напоўнены матчынымі слязьмі.

У вёсцы Семяноўка жыхары верылі, што жанчына, якая страціла дзіця, не павінна есці яблыкаў перад святам Спаса. У часе высвянчэння садавіны ў царкве павінна з'есці першы яблык. Калі б з'ела раней, дык яе дзіця ў небе не атрымлівала б пладоў.

Думаю, што згодзіцеся са мной, чытачы, калі скажу, што ўсе гэтыя вераванні, уяўленні складаюцца на прыгожую паэтычную беларускую міфалогію.

**А. Баршчэўскі**

(Працяг са стар. 7)

# З БІТВЫ У БІТВУ

Мабыць, Кейстут апынуўся ў незайздросным становішчы, а дапамогі ніадкуль было спадзявацца, бо брат Любарт з пляменнікамі Нарымунтовічамі і Карыятовічамі цярпелі паражэнні ад Казіміравых войск на Валыні, страцілі нават Уладзімір-Валынскі. Але дапамога прыйшла і то з цалкам неспадзяванага боку. Крыжакі палічылі, што наступ на Вялікае княства Літоўскае аб'яднаных сіл Каралеўства Польскага і Мазоўша занадта ўзмацняе наступаючых і гэта небяспечна для Ордэна. Рыцары са знакам чорнага крыжа на белых плашчах уварваліся ў Мазоўша, сеючы смерць і спусташэнне. На вестку пра гэта мазаўшане спынілі свой наступ на Кейстутавы ўладанні і паспяшалі дамоў. Аднак Кейстутавы страты, апрача выведзенага палону і знішчажэнняў, былі цяжкія, бо ва ўладанні Семавіта апынулася вялікая тэрыторыя па ніжнім цячэнні Бобры (Бебжы) з Гонязем і Райгарадам. У пагадненні паміж Семавітам і Кейстутам, уладкаваным у Горадні 14 жніўня 1358 г., граніца паміж Мазоўшам і Гарадзенскай зямлёй была ўстаноўлена па лініі ад Райгарада да рэчкі Нэты, і плынню яе да ракі Бобры, упадаючай у яе рэчкай Бярозаўкай (Бжозувкай) і рэчкай Чорнай да ўпадзення яе ў Супрасль і далей да ракі Нарвы ля ўпадзення ў яе рэчкі Нявадніцы (сённяшняй Чапліняпкі). Вядома, з такой граніцай Кейстут не мог пагадзіцца і шукаў нагоды адваяваць страчанае.

У выніку працяглых войнаў супраць Гедымінавічаў каралю Казіміру пры выдатнай вайсковай падтрымцы саюзных з ім князёў мазавецкіх удалося да 1366 года не толькі ўмацаваць уладу Польшчы ў Галіччыне, але і авалодаць вялікімі абшарамі Валыні і далёкага Падолля. Прытым некаторыя Гедымінавічы, каб застацца на княжацкіх пасадах, падпарадкаваліся польскаму каралю. Аляксандр, сын наваградскага князя Карыята-Міхала, быў ухвалены Казімірам як падлеглы яму князь на Уладзіміры-Валынскім. Юрый, сын князя пінскага Нарымунта-Глеба, прызнаў уладу Казіміра, каб толькі ўтрымацца ў Халме і Белзе. Пра нейкія малавядомыя, але і надта цікавыя зносіны караля польскага з другім сынам князя Карыята паведамляе „Хроніка Быхаўца“: „... кароль польскі Казімір Лакеткавіч даведаўся, што іх тры браты Карыятовічы (усіх іх было чатыры: Аляксандр, Канстанцін, Юрый і Фёдар — пра здабыццё імі Падолля гаворыцца ў адрэзку „Па бацькаваму запавету“, „Ніва“ № 22 ад 7 чэрвеня г.г.) на Падольскай зямлі — людзі моцныя. І ён прыслаў да князя Канстанціна глейтавыя лісты (запрашальныя і адначасова ахоўныя — М.Г.) з моцнай просьбай, каб да яго прыехаў. Так сабе абмеркаваў ён з усімі панамі: у яго ж сына не было, толькі адна дачка, таму хацеў ён за яго дочку выдаць і каралём паставіць пасля свае смерці. І князь Канстанцін да караля польскага ездзіў. Аднак не схацеў да яго веры прыступіць і зноў па тых жа глейтах паехаў з польскай зямлі ў сваё гаспадарства і там на Падоллі памёр“. Што ж, задума сціслага набліжэння Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага заўсёды была жывой і Крэўская унія знячэўку не ўзнікла.

А што на тое Кейстут?

**Мікола Гайдук**

# З СУДА

4 гады турмы за падпал клуні — гэта многа ці мала? Такое пакаранне палічыў дастатковым Ваяводскі суд у Беластоку, які 28 сакавіка г.г. разглядаў справу Яна Асмольскага. Далаткова яшчэ суд загадаў пазбавіць яго на 3 гады грамадзянскіх праваў.

А ўсё пачалося з таго, што Я. Асмольскі пасварыўся са сваім аднавяскоўцам Мар'янам А. і рашыў яму адпомсціць старым, я б сказаў, спрадвечным спосабам. І вось, напіўшыся найперш амаль да непрытомнасці, пайшоў з агнём на Мар'янаў панадворак. Ад клуні, якая загарэлася, агонь мог перакінуцца на іншыя будынкі, пагражаў цэлай вёсцы. На шчасце людзі не дапусцілі да гэтага.

Суд паведамляе, што яго прыгавор набраў ужо правадзейнай моцы, і Я. Асмольскі будзе мець час, каб належна разважыць свой учынак. 4 гады астрогу — гэта шмат у кароткім жыцці чалавека. Ці адхочацца яму асабістай помсты, ці злосць і нянавісць яшчэ болей замацуюцца ў яго сэрцы? Гэтага ніхто, апрача яго самога, ведаць не можа. Вопытныя людзі кажуць, што ў турме ніхто яшчэ нічаму добраму не навучыўся. Вядомая таксама старая праўда (чуў я гэта ў сваёй роднай вёсцы, будучы яшчэ дзецюком), што падпальшчыкаў, нават малых дзяцей, калісьці кідалі проста ў той агонь, які яны расклалі.

**Судамір Параграфчык**

# СОННІК

77

**Нота** (дыпламатычная) — напамінанне з чыёгасьці боку.

**Ноты** — вясёлае здарэнне; спяваць або іграць па іх — раднасное перажыванне.

**Ноч** цёмная — сямейныя спрэчкі; рассветленая зоркамі — доўгае жыццё; навальнічная — вялікая страта; вандраваць ноччу — пакінеш радзіму; быць ноччу на службе — цяжкая праца; начная кашуля — хуткі шлюб; начны гаршчок — твае патрэбы будуць задаволены.

**Нумары** бачыць — лік, які прысніўся, выйграе ў латарэі; пісаць — многа працы; мараць — ашукваеш самога сябе.

**Ныркі** бачыць сапсаваныя — няшчасце, смутак; здаровыя — здаровыя дзеці; есці — жыві памяркоўна і ціха; рэзаць — варожасць.

**Нэндза** вялікая — пагарда; апынуцца ў нэндзы — жыццё поўнае клопатаў, смутку.

**Нябожчык;** бачыць яго ў труне — цябе чакае радасць; цалаваць яго — доўгае жыццё; есці з ім — пойдзеш на вялікае павышэнне; уваскросшых бачыць — сварка за спадчыну; другі раз паміраючы — небяспека, смерць каханай асобы; падарунак ад нябожчыка атрымаць — шкода, страта; нябожчыка бачыць — шчасце ў каханні; гаварыць з ім — страціш прыяцеля; забітых на полі бою — жалоба.

**Няветлівым,** грубым быць — цябе абсмяюць.

**Нягоднік** — шмат страціш.

**Нядзеля** — шчаслівае сямейнае жыццё, блаславёная старасць.

**Нязгода** — шкодзіш сам(а) сабе; паміж прыяцелямі — удачная жаніцьба (замужжа).

**Нямым** быць — не верыш іншым; нямых бачыць — табе раскрыецца таямніца.

**Нянавісць** адчуваць — цябе зненавідзелі.

**Няскромнасць** — няпэўная ўдача.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# АЧАРАВАННЕ




Вакальны калектыў са школы ў Дубінах каля Гайнаўкі. Заняў другое месца на цэнтральным аглядзе конкурсу для школьнай моладзі „Беларуская песня-87“. Спявалі „Цераз рэчаньку“, „Ой, пайду я“.

Калектыў малады, выступіў у конкурсе першы раз і адразу добра. Перад ім будучыня. Вядзе яго Пётр Скепка.

Фота Я. Чэрнякевіч

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Авяр'ян Дзеружынскі

### ПЕЎНІК

— Пеўнік, пеўнік,
Ты хрыпаты! —
Кпяць з малога
Кураняты. —
На адзін матыў
Спяваеш,
Мабыць, спеўніка
Не маеш.
Пеўнік,
Пеўнік,
Купі
Сабе
Спеўнік!
Паслухаўся
Пеўнік —
Купіў сабе
Спеўнік.
А спявае
Недарэка
Усё ж тое —
Кукарэку.

Ніна Галіноўская

### У ПАКОІ СМЕХУ

Мы прыйшлі да смеху ў госці:
Колькі жартаў, весялосці!
Па люстэрках смех гуляе,
Смешыць нас — перакрыўляе:
То мы — тоўстыя, малыя,
То — вялізныя, худыя.
Раптам знік, схаваўся смех
У нябачны цуда-мех.
Мех ад смеху захістаўся.
І шчаслівы гучны смех
Па люстэрках зноў пабег.

Васіль Хомчанка

## ЖМЕНЯ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Вечарам мы занялі абарону ўздоўж рэчкі. На абодвух берагах яе раслі чаромха і крушына, пераплецены хмелем і калючай ажынай, а над усім гэтым зараснікам узвышаліся верхавіны старых алешын.

На тым баку рэчкі, за лугам, у вёсцы, якая глядзела на нас пустымі вокнамі, былі немцы.

Стаяла самае лета, духмянае і гарачае. Пахла недаспелай збажынной і свежым сенам. Было ціха, не стралялі. Салдаты акапаліся, заслалі акопы травой і ўклаліся спаць.

Ноч навалілася на зямлю густой цемрай і нечаканым ветрам. Ён шумеў у кустах, гнуў вершаліны алешын, свістаў недзе ў дупле. Пачалі ўспыхваць ракеты, вырываючы з цемры рэчку, якая блішчала, як дзёгаць, няскошаны поплаў на тым беразе і чорныя, быццам абгарэлыя хаты.

Я з ардынарцам Сілаевым ішоў па беразе. Раз-пораз нас аклікалі вартавыя і, пазнаўшы па голасе, прапускалі. Мы спусціліся да самой вады. Мокры жвір з мяккім шорханнем ўмінаўся пад ботамі. Я стаміўся, хацеў спаць і, каб адагнаць сон, зачарпнуў у прыгаршчы вады і плюснуў у твар. Потым лёг на жывот і памачыў у вадзе ўсю галаву.

Хтосьці з нашых пусціў ракету. Яна з сіпеннем узвілася ўгору і ярка-белым камяком агню ўпала ў рэчку. У самы апошні міг я заўважыў у сітняку штосьці жывое.

— Там хтосьці ёсць, — шапнуў Сілаеў.

— Давай ракету, — сказаў я.

У гэты момант у сітняку моцна заплюхала. Нехта ішоў знарок шумна.

— Стой! Хто? — прыцішаным голасам крыкнуў Сілаеў.

— Дзядзечка, не крычыце, свае, — адказаў дзіцячы голас.

Я пстрыкнуў ліхтарыкам, сіні праменьчык лізнуў край берага і выхапіў з цемры цыбатую дзіцячую постаць у адных трусіках.

— Дзядзечка, я свая, — пачулі мы голас дзяўчынкі. Яна выйшла на бераг, і было чуваць, што адзяецца.

У штабе батальёна я разгледзеў яе. Худзенькая, з высмаленымі на сонцы валасамі, яна сядзела на ўслончыку, і вялікімі бліскучымі вачыма пазірала на нас. Падол шырокай і не па росту доўгай сукенкі кругам ляжаў на падлозе, закрываючы ногі. Дзяўчынка сказала, што гэтую сукню дала ёй адна цётка.

— Хто ж ты такая? Дзе жывеш? — спытаў я.

Дзяўчынка ўсміхнулася:

— Далёка, далёка.

— Як далёка? З Ластаўкі? — Ластаўка — гэта вёска на тым беразе.

— Не адгадалі.

— Мне няма калі загадкі адгадваць. Адкуль ты?

— З Журавінак.

Я разгарнуў на стале карту, пачаў шукаць Журавінкі.

— Далёка яны адсюль?

— Далёка, на Нёмане.

— На Нёмане? — здзівіўся я і недаверліва паглядзеў на дзяўчынку.

— Ага.

— І куды ж ты ідзеш?

(Працяг на стар. 10)

## Вучнёўская творчасць

### ШТО ТАКОЕ ШЧАСЦЕ?

*Настаўніца беларускай мовы ў пачатковай школе ў Храбалах на класную работу ў восьмым класе выбрала тэму: „Што такое шчасце і як я яго разумею?“*

*Са згоды настаўніцы і вучняў „Зорка“ друкуе чатыры з гэтых работ.*

*„Зорка“ просіць сваіх чытачоў — давайце разам пагаворым аб шчасці, пашукаем адказу на пытанне — што такое шчасце? Паспрабуйце напісаць свае думкі аб шчасці. „Зорка“ ахвотна надрукуе кожнае цікавейшае апавяданне.*

*Тэма, як мора, і кожны пасвойму яе можа адолець. Значыць: што такое шчасце і як я яго разумею?*

* ✲ *

Пра шчасце можам гаварыць вельмі многа. Аднак гаварыць пра яго цяжка, бо кожны чалавек інакш разумее шчасце. Часта нам здаецца, што хтосьці, каго мы знаем, шчаслівы чалавек. Людзі пра сябе нячаста, наогул, думаюць, што яны шчаслівыя.

Кожны з нас мае свае імкненні, мары, і думае, што поўнасцю ён будзе шчаслівы толькі тады, калі ўсе мары яго здзейсняцца. Людзі часта не дацэньваюць таго шчасця, якое маюць.

Старыя, якія многа ў сваім жыцці пераажылі, гавораць, што цяпер жыць шчасліва. Мы — маладыя, якія маем яшчэ ўсё перад сабою, вельмі часта не згаджаемся з такім поглядам. Можна з гэтага зрабіць такі вывад, што чалавек, калі не перажыў сапраўднага няшчасця, не ўмее дацаніць таго, што мае.

Праз шчасце мы разумеем дабрабыт, здароўе і поспех. Вучань найчасцей думае, што ён шчаслівы тады, калі яго на ўроку не спытае настаўнік.

Эля Паўлючук

* ✲ *

Шчасце ў жыцці чалавека адыгрывае вялікую ролю. Людзі па-рознаму разумеюць шчасце. Некаторыя шчасцем лічаць грошы, прыгажосць, выйгрыш у „тота-лётка“, добрыя вынікі ў вучобе, поспех ў каханні і дружбе.

Па-мойму найбольшае шчасце — гэта здароўе. Здароўе вельмі важнае ў жыцці чалавека. Калі будзеш здаровым, можаш працаваць і цешыцца тым, што атрымліваеш за працу. Калі маеш здароўе, можаш зарабіць грошай, колькі захочаш.

Але ніколі нельга хваліцца сваім шчасцем, бо можаш яго страціць. Не можаш высмейвацца з людзей хворых, бо і ты сам будзеш хворы.

Найбольшым шчасцем для людзей з'яўляецца мір.

Гражына Белах

* ✲ *

Не ўсе аднолькава разумеюць шчасце. Некаторыя людзі гавораць, што ў іх няма шчасця, а ёсць яно ў іншых. Для адных шчасце — гэта грошы, для іншых — калі ў сям'і ўсе здаровыя. Старэйшыя людзі гавораць, што яны цяпер шчаслівыя.

Вучань шчаслівы, калі дастане пяцёрку, або, калі не ўмее ўрока і настаўнік яго не спытае. Людзі часта не дацэньваюць свайго шчасця штодзень.

(Працяг на стар. 10)

З суседскага агародчыка

## СТУДЭНЦКІ СМЕХ

Я адгадаваў вусы. Дэкан сустрэў, спачатку не пазнаў. Потым гаворыць:

— Зброійце вусы. Вы ж не артыст вакальна-музычнага ансамбля.

Пакрыўдзіўся я: ах, не артыст? Вывучыўся на гітары іграць. Вакальна-інструментальны ансамбль сабраў. На рэспубліканскім конкурсе першае месца заняў.

Дэкан сустракае, хваліць.

Тым часам мае вусы разрасліся так, што мне ўжо перашкаджаць пачалі. Збрыў я вусы і адгадаваў бараду. Дэкан сустрэў, не пазнаў. Пытаецца:

— Навошта вам барада? Вы ж пакуль не вучоны.

Настрой у мяне сапсаваўся. Уступіў я ў студэнцкае навуковае таварыства. Адкрыццё зрабіў. Патэнт атрымаў. Потым важную навуковую праблему распрацаваў. Дэкан сустракае, за руку вітаецца.

Неяк заўважыў я, што ў мяне валасы на галаве штосьці выпадаць пачалі. Урачы параілі пастрыгчыся нагала, заадно і бараду збрыў. Навошта яна, калі на галаве нічога не расце?

Дэкан сустрэў, спачатку не пазнаў. Потым сказаў:

— Ну, зараз вы зусім на прафесара падобны!

Задумаўся я. Давядзецца працаваць над доктарскай дысертацыяй.

**І. Шпора**








## У САМОЕ ПЕКЛА

А першай гадзіне ночы п'яны Кастусь з'яўляецца дамоў, дзе яго ўжо чакае жонка з качалкай у руках:

— Дзе гэта цябе чэрці да паўночы насілі?

— Дзе насілі — сам Бог ведае, але што ў самое пекла прынеслі — гэта напэўна, — хістаючыся, адказаў Кастусь.

## А ШТО ПАСЛЯ?

— Чуў, што паэт Радковіч з „Гары" дасягнуў у свае сорак год вяршыні майстэрства?

— Чаму цябе хвалюе гэты факт?

— Цікава, што ён далей рабіць будзе.

— Як што? Мабыць тое, што робяць альпіністы, дасягнуўшы вяршыні...

## ВЫНІКІ АПЕРАЦЫІ

— Як адчувае сябе твой брат пасля аперацыі?

— На жаль, узніклі ўскладненні...

— Якія?

— Ажаніўся з медсястрою.

## ПАВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Чаму табе, сынок, не спіцца?

— З галавы не вылазіць Пятрук Стабловіч. Сёння ў школьнай сталоўцы ён разбіў талерку...

— Ну, а ты тут пры чым?

— Ды разбіў жа талерку на маёй галаве.





Ён патрабаваў, каб сокалы выклёўваліся нават з зязюльчыных яек.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Гаспадыня даходнага дома кватаранту:

— Вы не выедзеце адсюль, пакуль не заплаціце, зразумела?!

— Дзякуй, мадам! Вялікае дзякуй!

— ✲ —

— Як закончыўся шлюбаразводны працэс Джонсанаў?

— Як трэба. Муж атрымаў аўтамабіль, жонка — дзяцей, а адвакат — усю рэшту ў якасці ганарара.

— ✲ —

Два наведвальнікі кавярні здзіўляюцца мноству мух на сваім стале. Адзін кажа:

— Ты іх не заказваў?

— Я не. А ты?

— І я не. Паглядзім, ці ўключаць іх у рахунак...



**— Прычоска каштавала 15 фунтаў, а вось урокі ёгі, каб навучыцца спаць, стоячы, — 25 фунтаў за гадзіну.**

З „Весніка Задрыпоніі"

## КЕМЛІВЫ ВАРАНОВІЧ

Лясні́к Варановіч, які доўга не быў у кварталах свайго абходу, прыкмеціў: у лесе чым больш пнёў, тым менш дроў.

## БАНТОН

Гаспадары частуюць аматараў піва — півам, аматараў віна — віном, аматараў выпіць — чаем або кавай.



## НА ПЕРАВОЗЕ

Прымасціўся над бярозай
Серп маладзіка.
Я сачу за перавозам —
Ды маўчыць рака.

За ракой у леснічоўцы —
Малады лясні́к...
Я адвадзіла ўсіх хлопцаў:
Вабіць лесавік.

Не рыпіць паром старэнькі,
Перавозчык спіць.
Затрымаўся мой міленькі, —
Мусіць, не карціць.

Мо завёў сабе другую:
Трэці дзень няма.
Я мілому не дарую —
Разлюблю сама.

**Уладзімір Фамін**

## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ




**У якой паслядоўнасці трэба размясціць малюнкі, каб атрымалася „апавяданне ў малюнках"?**




## НАПЕРАД, ДА ПРЫРОДЫ!

У Габоне ствараецца нацыянальны парк. Само па сабе гэта паведамленне не навізна: нацыянальных паркаў у свеце вельмі многа. І ўсё-такі габонскі парк, размешчаны паблізу горада Ламбарэнэ, — выпадак асаблівы. Большую частку тэрыторыі займаюць азёры. Жывёліны будуць жыць на выспах, а турыстам адводзіцца вёска, архітэктурныя асаблівасці якой перанясуць жыхароў у Афрыку XIX стагоддзя. Падарожнічаючы па азёрах у доўбленых пірогах, турысты будуць у біноклі разглядаць прыгажосці тутэйшых мясцін. А ў хатках „гістарычнай" вёскі знойдуцца ўсе неабходныя выгоды.



## РЭКЛАМА

**„Наша спецыяльнасць — гіганцкія кактэйлі. Мы — адзіны рэстаран у акрузе, які ведае кожны ідыёт..."**

Журнал „Нью-Хэйвен рэджыстэр".




**У чалавека з каменем за пазухай рукі заўсёды свабодныя для абдымкаў.**